# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1734) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 6 ЖНІЎНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.



Гаварыла поле шырокае, жыта ядранае: — Не хачу я ў полі стаяці, коласам махаці, а толькі хачу — у полі снапамі, а ў гумне — капамі.
Фота Янкі Целушэцкага.




15. красавіка 1989 года на пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ упершыню ставілася справа ўдзелу Таварыства ў парламенцкіх выбарах. Разглядаліся варыянты, сярод якіх перавашала канцэпцыя ўвядзення ў спісак кандыдатаў у паслы з партыйных членаў Таварыства праз ваяводскі канвент ПАРП.

Усё беларускае асяроддзе было ўпэўнена, што за Круглым сталом будуць прадбачаны мандаты і для меншасных кандыдатаў, а апрача таго, для беларусаў створаць нацыянальную выбарчую акругу. Незалежна ад гэтага, Беларускі клуб як самастойнае палітычнае ўтварэнне вырашыў удзельнічаць у выбарах і вылучыць сваіх кандыдатаў, што супадала з думкай часткі актыву БГКТ. Таму было ўзгоднена, што для паспяховага ўдзелу ў выбарах неабходна спалучыць усе нашы сілы, у тым ліку і звязаныя з царквой, з увагі на факт, што дзейнічаюць яны на Беласточчыне амаль выключна на базе карэннага беларускага насельніцтва.

16 красавіка па ініцыятыве БГКТ адбылася сустрэча яго прадстаўнікоў Аляксандра Баршчэўскага і Віктара Стахвюка з Архіепіскапам беластоцкім і гданьскім, Уладыкам Саваю. Паразумеліся аб'яднацца не толькі ў выбарчай справе, але і ў пытаннях духоўнага ды грамадскага жыцця. І царква і БГКТ служаць свайму народу — беларусам, якія складаюць у больш чым 95% праваслаўнае насельніцтва Беласточчыны.

Неўзабаве на пасяджэнні заснавальнікаў Праваслаўнага брацтва ў Беластоку, узгоднены былі (не без розніцы поглядаў) супольныя кандыдаты: Ян Піўнік і Яўген Міранові ч як прадстаўнікі праваслаўных арганізацый, і вырашана было падтрымаць Сакрата Яновіча як прадстаўніка БГКТ. Адзначым, што Я. Міранові ч ад пачатку разглядаўся намі таксама як кандыдат беларускіх арганізацый. Вырашылі не ўводзіць ніякіх іншых кандыдатаў, якія былі б канкурэнтнымі ў беларускім праваслаўным асяроддзі і давялі б да падзелу сіл і галасоў.

17 красавіка ў „Жэчпаспалітай“ апублікавана была інфармацыя пра падзел мандатаў і ўстанаўленне выбарчых акругаў. Выявілася, што надзеі на прыхільнасць Круглага стала да патрэб нацыянальных меншасцяў — гэта чарговы міф, які ўзяўся ад нашай даверлівасці і, чаго граха таіць, наіўнасці (!).

Таму 21 красавіка ГП БГКТ пачало рыхтаваць пратэст у Раду Дзяржавы супраць выбарчай ардынацыі. Разважалі пры тым, ці не лепш прыняць тактыку байкоту.

Некаторыя дзеячы ГП, якія бачылі адзіны шанц у шэрагах урадавай кааліцыі, прапанавалі пачакаць да 26 красавіка, калі мела вырашыцца (але, як выявілася пазней, не вырашылася) у Ваяводскім камітэце ПАРП справа кандыдатаў ад БГКТ. Не адбылася таксама планаваная раней сустрэча Прэзідыума ГП БГКТ з Экзекутывай ВК ПАРП. Гаварыў вельмі крытычна аб гэтым у ЦК ПАРП А. Баршчэўскі. Не менш востра ім быў ацэнены і сам выбарчы канвент, на якім аказалася, што прадстаўнік БГКТ А. Карпюк даведаўся пра сваю кандыдатуру на пяць мінут перад пачаткам канвента. А другі, М. Вішанка, кандыдатуру якога вылучылі партыйныя інстанцыі ў Мілейчыцах, Нурцы-станцыі і Мельніку, выступаў тут у якасці адзінага нашага прадстаўніка, аб чым мы і самі не ведалі. Нічога іншага ім не заставалася, як адмовіцца ад кандыдатуры. 8 мая аказалася таксама, што прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў няма месца і ў цэнтральным спіску.

Да 9 мая збіранне подпісаў актывістамі БГКТ, БАСа, царквы і святарамі за кандыдатурамі было закончана. У Беластоцкай акрузе былі зарэгістраваны кандыдаты ў сенатары: Ян Піўнік і Сакрат Яновіч. Здзіўленне выклікаў факт, што спіскі для рэгістрацыі кандыдата ў паслы

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСКАЯ СКАРБОНА

## НА СУСВЕТНАЙ АРЭНЕ

Нашым чытачам, бадай, не ўпершыню чуць аб прысутнасці Беларусі ў музычным свеце, пачынаючы ад старадаўніх „Полацкіх сшыткаў“ і канчаючы папулярнымі запісамі нашага славутага тэнара, што спяваў у не менш славутай і прэстыжнай міланскай оперы „Ла Скала“ — Міхася Забэйды-Суміцкага альбо захапляючымі беларускімі мелодыямі амерыканскага спевака Багдана Андрусышына (Данчыка).

Сёння мы прадоўжым гэтую тэму і раскажам пра выданні беларускіх песень у Парыжы.

Як вядома, у французскай сталіцы знаходзіцца штабкватэра міжнароднай арганізацыі па пытаннях культуры ЮНЕСКО. Яна і была ініцыятарам гэтых выданняў.

Спачатку ў серыі „Музыка і музыканты свету“ выйшаў дыск-гігант „Беларуская музыка“, які потым быў перавыдадзены па найноўшай тэхналогіі лазерным кампакт-дыскам у серыі „Калекцыя народнай музыкі ЮНЕСКО“.




А на здымку вы бачыце касетную версію гэтага выдання. Стэрэакасета „Музычны фальклор Беларускага Палесся“ была выдадзена фірмай „Аўвідзіс“ у 1988 годзе. Гэтае шыкоўнае выданне не проста цудоўна аформлена ды якасна ўвасоблена ў сэнсе гукарэжысуры і стэрэазапісу (па сістэме „Долбі“), але і ўкамплектавана брашурай з дэталёвым аналізам такога

(Працяг на стар. 4)

Мікола Іваноў

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

— 3 —

**1. 2. Ленін і Сталін: два погляды на нацыянальнае пытанне.**

Сталін, як вядома, упершыню сустрэўся з Леніным улетку 1912 г., калі наведаў яго ў яго польскім прытулку. Сустрэча гэтая залажыла падставы далейшага супрацоўніцтва паміж двума лідэрамі партыі. Ленін ад імя ЦК партыі даручыў Сталіну падрыхтаваць артыкул, які б у даступнай форме адлюстраваў сутнасць тагачаснай агульнапартыйнай дыскусіі па нацыянальнаму пытанню. Яго выбар затрымаўся на Сталіне невыпадкова. Ленін лічыў, што бальшавіцкую праграму па нацыянальнаму пытанню павінен сфармуляваць прадстаўнік адной з нацыянальных меншасцяў.

У канцы 1912 г. вядомая (практычна яго першая тэарэтычная распрацоўка) праца Сталіна „Марксізм і нацыянальнае пытанне“ была закончана. Л. Троцкі ў сваіх мемуарах прыгадвае, што яна не была вынікам яго самастойнай працы, што галоўныя тэарэтычныя палажэнні і вывады былі сфармуляваны Леніным, які падрыхтаваў падрабязны план працы, а таксама даручыў М. Бухарыну забяспечыць новага партыйнага „спецыяліста“ па нацыянальнаму пытанню перакладамі на гэтую тэму нямецкіх і аўстрыйскіх тэарэтыкаў. У адрозненні ад Леніна Сталін, апрача рускай, ніводнай замежнай мовы не ведаў.

Нягледзячы на так пільную апеку Леніна, далейшы ход падзей пераконвае, што Сталін ніколі не разумеў, або не хацеў разумець, сутнасць ленінскіх поглядаў па нацыянальнаму пытанню. Быў ён, аднак, вельмі спрытным тактыкам ва ўнутрыпартыйных узаемаадносінах і разумеў небяспеку адкрытага канфлікту з бясспрэчным лідэрам партыі. Таму на працягу даволі доўгага перыяду Сталін быў паслушным выканаўцам канцэпцый Леніна. Адзіная адкрытая канфрантацыя паміж імі прывяла не толькі да паражэння Сталіна, але і дыскрэдытацыі яго асобы ў вачах кіраўніцтва партыі.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны Ленін быў адзін з нямногіх у кіраўніцтве партыі, хто заўважаў небяспеку далейшага адкрытага канфлікту з незалежніцкімі нацыянальнымі рухамі. Патрэбны былі канструктыўныя кампрамісы, своеасаблівы адпаведнік нэпу ў нацыянальнай палітыцы. Новы курс партыі быў абвешчаны па ініцыятыве Леніна на X з'ездзе партыі (сакавік 1921 г.). Ён прадугледжваў значнае пашырэнне правоў усіх без выключэння нацыянальных меншасцяў.

Галоўныя палажэнні гэтай палітыкі сталі, аднак, крыніцай разыходжанняў і нават адкрытай варожасці паміж некаторымі кіраўнічымі дзеячамі партыі. Калі, напрыклад, М. Бухарын і яго група былых „левых камуністаў“ даволі хутка падпарадкавалася аўтарытэту Леніна і зразумела праўдзівасць яго аргументацыі, дык Сталін рызыкнуў уступіць з ім у адкрыты канфлікт. Ён лічыў, што пашырэнне правоў нацыянальных меншасцяў у такіх маштабах можа з'явіцца першым крокам да рэстаўрацыі ў краіне буржуазнай дэмакратыі і тым самым прывесці да краху ўсіх рэвалюцыйных заваёў. Упэўненасці ў сваіх сілах Сталіну безумоўна дадаваў факт, што на працягу 1921 г. яму ўдалося сканцэнтраваць у сваіх руках даволі значную партыйную і дзяржаўную ўладу, што дазваляла яму кантраляваць працу партыйных і дзяржаўных органаў па нацыянальных справах. Больш таго, ужо тады ён здолеў аб'яднаць вакол сябе групу прыхільнікаў, якія слепа выконвалі яго распараджэнні.

Унутрыпартыйная барацьба паміж актуальным і будучым лідэрамі партыі разгарнулася вакол так званага праекту „аўтанамізацыі“. Распрацаваны асабіста Сталіным, ён прадугледжваў уваход існаваўшых тады савецкіх рэспублік у склад РСФСР на правах аўтаномных. Ленін прапанаваў абсалютна іншую форму аб'яднання ў федэрацыю, якая забяспечвала б раўнапраўнасць рэспублік і гарантавала ім права выхаду з Саюза. Ён выказаў сумненне адносна тэарэтычных кваліфікацый аўтара праекта „аўтанамізацыі“, абвінаваціў яго ў незнаёмасці падстаў марксізму і нават меў намер арганізаваць супроць Сталіна партыйны суд. Ленін імкнуўся да поўнай кампраметацыі яго палітычнай лініі. Пачалася падрыхтоўка да спецыяльнага пленума ЦК партыі, на якім планавалася абвясціць вайну рускаму вялікадзяржаўнаму шавінізму. У якасці галоўных выразнікаў гэтай рэакцыйнай тэндэнцыі апрача Сталіна Ленін называў С. Арджанікідзе, Ф. Дзяржынскага, В. Міцкявічуса-Капсукаса і іншых. Апазіцыю гэтай групы ў нацыянальных справах Ленін расцэньваў амаль што ў якасці палітычнага злачынства. „Палітычна адказнымі, — пісаў ён, — за ўсю гэтую вялікадзяржаўную нацыяналістычную кампанію трэба прызнаць бясспрэчна Сталіна і Дзяржынскага“.[5]

Атака Леніна на вялікарускі шавінізм была надзвычай рашучай. Сталін вельмі хутка зразумеў, што ён пераацаніў свае магчымасці. Ён быў на мяжы палітычнай смерці і таму маментальна адмовіўся ад сваіх ранейшых поглядаў. Не шкадуючы сіл, ён намагаўся рабіць усё магчымае, каб зноў стаць верным ленінскім вучнем, галоўным праваднікам ленінскіх ідэй па нацыянальным пытанні. Няма сумнення ў тактычным характары гэтай метамарфозы, якая дазволіла Сталіну захаваць свае пазіцыі ў кіраўніцтве партыі. Яшчэ ў верасні-кастрычніку 1922 г. ён упарта, не перабіраючы ў сродках, змагаецца з цяжка хворым Леніным, а ўжо ў снежні мы бачым яго на Першым з'ездзе Саветаў СССР у якасці паслухмянага выканаўца ленінскага федэрацыйнага плана. Падобная тактыка дазволіла Сталіну пазбегнуць пагрозы страты пасады Генеральнага сакратара партыі (што прапанаваў Ленін у сваім вядомым лісце да з'езду) і адчыніла шлях да ўтварэння ў СССР новай невядомай у гісторыі чалавецтва дэспатыі, шлях да сталінізму. Сваю долю страшнага гора давялося зазнаць у гэты перыяд і нашаму беларускаму народу.

*(Працяг будзе)*

[5]. Ленин В. И., Полн. собр. соч., т. 45, с. 358.




**(Працяг са стар. 5)**

Ён актуальны і сёння, а тым больш будзе актуальны заўтра.

Для сустрэч з выбаршчыкамі выкарыстоўвалі мы фэстыны (Бельск, Гайнаўка). Канцэнтраваліся перш за ўсё на плакатаванні беларускіх вёсак і гарадоў, асабліва Гайнаўкі і Бельска, а таксама Беластока. Шмат было ахвярнасці з боку БАСаўцаў, школьнай моладзі і тых прыхільнікаў, з якіх многія не былі нават членамі БГКТ. Каб памагчы ў выбарах, прыязджалі беларусы аж з Лодзі, Ольштына, Варшавы.

Варта заўважыць, што шмат якія нашы плакаты знішчалі, палілі, заклейвалі. „Плакатную вайну“ мы вялі ўсё-такі па-рыцарску, не помсцілі. Эфект, як паказалі вынікі выбараў, ад гэтага не панізіўся. Затое значны ўплыў мела вусная антыпрапаганда, якой не пашкадавалі прадстаўнікі небеларускіх грамадска-палітычных асяроддзяў.

Неаднойчы даводзілася папраўляць іх „верагодныя інфармацыі“. Асабліва датычыла гэта Сакрата Яновіча, хоць і супраць Я. Мірановіча распаўсюджваліся не менш казачныя выдумкі, як напрыклад тое, што ён... парашутыст Ватыкана, які ўзяўся ўсянюткіх беларусаў перавесці ва уніяцтва. Калі пужаць народ, дык не абы-чым! Яшчэ інакш кажучы, дакажы, што ты не вярблюд!

Удвая, калі не больш, занізіў выбарчыя вынікі падзел нашых сіл. Мяркую, што многія беларусы ўвогуле не пайшлі на выбары, каб не пашкодзіць сваім. Апрача гэтага, відавочна, разгубіліся ў выбарчых спісках або



*„Плакатную вайну“ вялі мы ўсё-такі па-рыцарску.*

галасавалі па-старому, і таму працэнт няважных галасоў быў высокі, асабліва ў нашых вёсках:

| Тэрыторыя | Агульны лік выбаршчыкаў | Лік аддадзеных галасоў | Адсутнасць выбаршчыкаў | | Няважныя галасы | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | лік | % | лік | % |
| Беласток | 188570 | 120429 | 68141 | 36 | 12303 | 10 |
| Падбеластоцкія гміны | 53255 | 31691 | 21564 | 40,5 | 5405 | 17 |
| Гайнаўшчына | 41761 | 21462 | 15479 | 37 | 6013 | 28 |
| Бельшчына | 47364 | 31735 | 15629 | 33 | 4672 | 14,7 |
| Сямяціцкі раён | 38469 | 23164 | 15325 | 40 | 4054 | 17,5 |
| Лапскі раён | 41693 | 27551 | 14142 | 33,9 | 4000 | 14,5 |

Напэўна, цікавасць выклікае параўнаўча невысокі працэнт адсутнасці на Бельшчыне. Тлумачыцца гэта тым, што яна неаднародная і ёсць гміны з абсалютнай перавагай польскага насельніцтва, якое было палітычна надта актыўнае:

| Некаторыя гміны на Бельшчыне | Лік выбаршчыкаў | Аддадзеныя важныя галасы | Лік галасоў, аддадзеных на некаторых кандыдатаў у Сенат | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | % | С. Яновіч (БГКТ) | А. Стэльмахоўскі („Салідарнасць“) | М. Шаматовіч (ПАРП) |
| Бранск | 9716 | 6028 | 62 | 49 | 5013 | 317 |
| Боцькі | 4697 | 2636 | 56 | 216 | 1606 | 251 |
| Вышкі | 3149 | 2816 | 89 | 58 | 2300 | 166 |
| Бельск г-д | 16920 | 10104 | 60 | 2779 | 3961 | 2829 |
| Бельск гм. | 8033 | 3468 | 43 | 1747 | 1086 | 712 |

На меншую ад іншых прысутнасць у гміне Боцькі ўплыў мелі малаактыўныя беларускія вёскі, напрыклад, у Снежках аддадзена 38% важных галасоў. Так было ў большасці беларускіх вёсак, апрача Орлі, дзе важных галасоў адзначана аж 56,5%.

 

# Тут не лічыцца веравызнанне

**(Размова з выхадцам з Беласточчыны Янкам Мойсікам, працаўніком беларускай праграмы Ватыканскага радыё).**

„Заданне Ватыканскага радыё — зрабіць чутным біццё сэрца Царквы ва ўсіх яе частках і старацца ўмацоўваць сувязь мясцовых Цэркваў (асабліва тых, якім даводзіцца існаваць у краінах, дзе няма рэлігійнай свабоды) з пасадам Пятра і між сабою. Робіць яно гэта праз штодзённую інфармацыю, евангелізацыю і навучанне, звяртаючы асаблівую ўвагу на пытанні паўнавартаснага развіцця чалавека ў святле адкуплення і праяўляючы чуткасць у галіне экуменічных і міжкультурных сувязяў. З асабістага дасведчання ведаю, што значыць голас Ватыканскага радыё для тых верных, якія чакаюць ад яго ўмацавання ў веры і падтрымкі надзеі...“

**Мікола Ваўранюк:** — Так тлумачыў заданні Ватыканскага радыё папа Ян Павел II у прамове да працаўнікоў Ватыканскага радыё ад 5.02.1980 года, фрагмент якое змешчаны ў прыгожай каляровай брашурцы на беларускай мове. Скажы крыху пра гісторыю і цяперашнюю сітуацыю папскай радыёстанцыі.

**Янка Мойсік:** — Урачыстае адкрыццё папскае радыёстанцыі мела месца 12.02.1931 г. Папа Пій XI даручыў кіраўніцтва радыёстанцыяй, створанай вынаходцам радыё Гульельма Марконі, а.а. езуітам, якія кіруюць ёю і сёння. Цяпер у 14 студыях штодзённа падрыхтоўваюцца праграмы на трыццаці чатырох, а час ад часу, і на некаторых іншых мовах свету. Праграмы передаюцца на Еўропу, краіны Міжземнаморскага басейна, Савецкі Саюз, Азію, абедзве Амерыкі, Афрыку. Ёсць таксама асобная мясцовая праграма для Рыма і ваколіц, якая працуе круглыя суткі. Агульны час усіх штодзённых перадачаў перавышае 46 гадзін.

**М. В.:** — А колькі гадоў існуе ўжо беларуская секцыя?

**Я. М.:** — Першыя пробныя праграмы пачаліся ў 1949 г. Заснавальнікам беларускае радыёперадачы быў а. Пётр Татарыновіч, які спачатку вёў яе сам, а да таго выдаваў яшчэ рэлігійна-грамадскі часопіс „Зніч“.

**М. В.:** — Што змянілася на працягу 40 гадоў?

**Я. М.:** — Цяпер праграма мае трох пастаянных працаўнікоў, не ўлічваючы вонкавых супрацоўнікаў. Беларускі голас ідзе ў эфір штодзень — 15 мінут увечары, якія паўтараюцца на другі дзень раніцаю. Беларуская секцыя, як і ўсе іншыя секцыі Ватыканскага радыё, перадае рэгулярна весткі з рэлігійнага жыцця і дзейнасці Свяцейшага Айца. Такім чынам для многіх беларускіх слухачоў наша праграма з'яўляецца лучнікам з сусветнаю Царквою. Беручы пад увагу сучаснае становішча Царквы ў Беларусі, у асаблівасці недахоп святароў, перадачы Ватыканскага радыё набіраюць асаблівага значэння. Акрамя гутарак на рэлігійныя і маральныя тэмы, навучання праўдаў веры, чытання літургічных тэкстаў, перадаюцца праграмы на культурныя тэмы, з асаблівай увагаю на хрысціянскія карані беларускай культуры.

**М. В.:** — Ці апрача працаўнікоў вашае секцыі можна знайсці ў Рыме яшчэ іншых беларусаў?

**Я. М.:** — Так, ёсць некалькі, але, на жаль, у іх няма нічога з беларускасці. Сталі палякамі або расейцамі. Хаця трэба ім палічыць на плюс, што часам прадстаўляюцца як беларусы.

**М. В.:** — А як ты сам тут апынуўся?

**Я. М.:** — Гэта даволі складанае пытанне. З Польшчы я выехаў у Вену незадоўга да ўвядзення ваеннага становішча ў 1981 г. Там быў два гады. Аднойчы ў царкве св. Варвары спаткаў айца Тамушанскага, які прыехаў з Рыма да свайго знаёмага. Айцец Тамушанскі ўжо тады быў кіраўніком беларускай праграмы. Між намі завязалася размова пра Ватыканскае радыё. Я ніколі раней пра яго не чуў. Пасля пераадолення цяжкасцей з італьянскаю візаю ўдалося мне перабрацца ў Вечны Горад і пазнаёміцца з працаю радыёвяшчальнай станцыі. Працую ўжо тут пяць гадоў і мушу прызнацца, што нядрэнна пазнаў тайнікі гэтай установы.

**М. В.:** — Ад нядаўна ты выдаеш невялічкі месячны бюлетэнь „Хрысціянскія навіны“. Што было імпульсам да яго нараджэння? Ці былі ўжо першыя водгукі ад чытачоў?

**Я. М.:** — Пасля гадоў самоты адчуў я духоўную патрэбу наблізіцца да іншых беларусаў, расцярушаных па свеце. Дзеля гэтага ў маёй галаве ўзнікла ідэя, каб пачаць выдаваць нейкі бюлетэнь пра тое, што дзеецца ў Ватыкане. Такім чынам у верасні 1988 г. з'явіўся першы нумар „Хрысціянскіх навін“. Як ва ўсім, спачатку былі клопаты, нават з боку адказнога рэдактара беларускай праграмы а. Тамушанскага, якому і сёння не падабаецца мая задума. Дырэкцыя Ватыканскага радыё добра разумее становішча беларусаў і пайшла мне на руку. Кошты, звязаныя з выданнем бюлетэня і яго высылкаю, аплочвае Ватыканскае радыё. Водгукі на бюлетэнь былі з усяго свету: Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, Польшчы. Усе поўныя захаплення гэтай ідэяй і добрым словам заахвочваюць да далейшай працы.

**М. В.:** — Наколькі мне вядома, ты даволі многа ездзіў па беларускіх эміграцыйных цэнтрах. Што можаш сказаць пра нашу эміграцыю?

**Я. М.:** — Так, магу пахваліцца, што ўдалося мне наведаць амаль усе беларускія асяроддзі. Быў у Аўстраліі, ЗША, Англіі, Францыі. З многімі перапісваюся, хаця іх ніколі не бачыў. Памойму, грамадскае жыццё знаходзіцца ў даволі цяжкім становішчы. Чаму? Таму, што амаль уся моладзь адыходзіць. І гэта ва ўсіх краінах. Яны гавораць, што з'яўляюцца беларусамі, але справа з веданнем мовы — дрэнная. Зусім адваротны працэс, як у літоўцаў ці латышоў, якіх добра ведаю. Старэйшае пакаленне беларусаў памірае, а іх наступнікаў няма. Нейкі імпульс у жыццё эміграцыі даюць маладыя беларусы, прыязджаючыя з Беласточчыны. Я тут не абвінавачваю бацькоў, што не навучылі дзяцей роднай мовы, гэта вельмі скла-

**(Працяг на стар. 11)**

| Тэрыторыя | Лік выбаршчыкаў | Аддадзеныя важныя галасы лік | % | Лік галасоў, аддадзеных на некаторых кандыдатаў у Сенат: Яновіч | Стэльмахоўскі | Шаматовіч |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Гміны** | | | | | | |
| Нарва | 4267 | 1698 | 39,5 | 593 | 285 | 323 |
| Нараўка | 3968 | 1798 | 45,0 | 479 | 204 | 867 |
| Міхалова | 7057 | 2906 | 39,8 | 594 | 935 | 595 |
| Дуб. Царк. | 2240 | 904 | 40,0 | 141 | 138 | 377 |
| **Вёскі** | | | | | | |
| Ласінка | 787 | 231 | 29,0 | 94 | 7 | 24 |
| Арэшкава | 629 | 225 | 36,0 | 66 | 18. | 101 |
| Навакорнін | 514 | 174 | 33,0 | 54 | 11 | 42 |
| Юшк. Груд | 814 | 211 | 25,8 | 66 | 44 | 33 |
| Тапаляны | 380 | 95 | 25,0 | 18 | 17 | 21 |

Прыклады можна множыць. Адсюль відавочная прычына таго, што наш выбарчы патэнцыял перасунуўся ў гарады. Толькі ў трох з іх С. Яновіч атрымаў звыш 50% галасоў з усіх 22.410, а Я. Піўнік 45% з усіх 28.508.

| | Беласток | Бельск | Гайнаўка | Сума |
|---|---|---|---|---|
| С. Яновіч | 6981 | 3044 | 1662 | 11687 |
| Я. Піўнік | 7944 | 2630 | 2533 | 13107 |

Прыблізны працэнт прысутнасці і выбарчыя вынікі былі і пры галасаванні на паслоў (Яўген Міранович атрымаў 14.352 галасы):

| Тэрыторыя | Лік выбаршчыкаў | Лік важных галасоў | Лік галасоў, аддадзеных на некаторых кандыдатаў у Сейм: Я. Бэшта („Салідарнасць“) | Б. Мартынюк (правасл.) | Я. Міраповіч (БГКТ) | М. Суровец (беспартыйны) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| р-н Саколка | 57452 | 29238 | 21453 | 665 | 1299 | 4503 |
| р-н Монькі | 24224 | 12213 | 9883 | 224 | 237 | 1097 |
| гм. Міхалова | 7057 | 3014 | 1256 | 366 | 696 | 472 |
| гм. Гарадок | 5416 | 2828 | 534 | 318 | 1204 | 630 |
| р-н Сямяцічы | 36267 | 17799 | 11073 | 2479 | 1574 | 1761 |
| р-н Бельск | 48506 | 29011 | 16376 | 2951 | 4958 | 3573 |
| р-н Гаўнаўка | 41761 | 21462 | 5613 | 4281 | 4158 | 5798 |
| р-н Лапы | 29220 | 18872 | 16803 | 188 | 226 | 1028 |




*Амаль у апошнія дні ўдалося надрукаваць плакат, які стаў нашым сімвалам і праграмай.*

Цікавасць выклікае факт, што там, дзе пражываюць беларусы, многа галасоў было аддадзена на кандыдатаў урадавай кааліцыі, а ў выпадку галасавання на паслоў — на М. Сураўца.

4 чэрвеня 1989 г. паказаў, што сёння ўжо нельга гаварыць пра нацыянальную несвядомасць беларусаў. Прымушаны да выбару паміж маральнымі каштоўнасцямі, большасць з нас галасавала не толькі як грамадзяне, але і як беларусы і праваслаўныя.

4 чэрвеня стаў выбарчым трамплінам, які даў неабходны штуршок-імпульс да якасна новага грамадска-палітычнага жыцця беларусаў. Упершыню ад 1944 года беларусы выбіралі сваіх кандыдатаў у парламент краіны. Упершыню зразумелі, што аб сваіх справах могуць гаварыць толькі самі. Зразумелі, што інакш думаць было б дзіцячай наіўнасцю, бо ніхто за нас не будзе вырашаць нашых праблемаў.

**Кандыдаты і выбарчы штаб шчыра дзякуюць усім нашым выбаршчыкам!**

**Віктар Стахвюк**
**Фота Я. Максімюка**



 

# Зорка
## Старонка для дзяцей




*Кабінет рускай мовы ў школе ў Дубяжыне паказваюць васьмікласніцы — найлепшыя вучаніцы і ўдзельніцы прадметнай алімпіяды па рускай мове.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

(Беларуская народная казка)

# ЖАРОНЦЫ

Жылі дзед ды баба. Нічога ў іх з гаспадаркі не было — толькі пеўнік і жаронцы.

Дзіўныя гэта былі жаронцы: паложыць у іх дзед адно зярнятка, пакруціць раз□ другі, і цэлая кадушка мукі намелецца!

Добра жылі дзед з бабай самі і пеўніка не крыўдзілі.

Дачуўся пра дзіўныя жаронцы пан. Парашыў ён украсці іх.

Прыехаў адвячоркам да дзеда і просіцца пераначаваць. „На паляванні, — кажа, — быў: далёка дадому ехаць, а тут ноч надыходзіць...“

— Начуй сабе, — кажа дзед, — месца хопіць.

Уночы, як дзед і баба заснулі, пан украў жаронцы ды паехаў.

Моцна затужылі дзед з бабай па жаронцах. Сядзяць яны галодныя ды плачуць.

Пеўнік слухаў, слухаў іх, а потым кажа:

— Не плачце, я вярну вам жаронцы!

— Дзе табе вярнуць іх! — кажуць дзед і баба. — Пан цябе і на парог не пусціць.

— Нічога, — падхрабрыўся пеўнік, — вярну. Хоць сам загіну, а жаронцы вярну.

Развітаўся ён з дзедам і бабай ды паляцеў у панскі двор.

Ляціць ён дарогаю, ляціць ён шырокаю, а насустрач яму каршун.

— Куды, певень, ляціш? — пытаецца.

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Я лячу іх сыскваць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

— Каршун улез пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей.

Ляціць ён дарогаю, ляціць шырокаю, а насустрач яму лісіца:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу сыскваць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

Лісіца ўлезла пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей.

Ляціць ён дарогаю, ляціць ён шырокаю, а насустрач яму барсук:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу сыскваць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

Барсук улез пеўніку ў валляк. Пеўнік паляцеў далей.

Ляціць ён дарогаю, ляціць ён шырокаю, а насустрач яму воўк:

— Куды, певень, ляціш?

— У двор да пана.

— Чаго?

— Пан у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Лячу сыскваць.

— Вазьмі і мяне з сабою.

— Лезь у валляк!

Ляцеў, ляцеў пеўнік і прыляцеў у двор да пана. А ў пана ў гэты час былі госці — пілі, гулялі. Вокны і дзверы насцеж парасчыняні.

Узляцеў пеўнік на падаконнік, залопаў крыламі ды заспяваў на ўвесь голас:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку! Ён у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў. Я прыляцеў сыскваць. Аддавай, пан, жаронцы!

Пану стала брыдка перад госцьмі, што пеўнік яго злодзеем абзывае. Вось ён і кажа:

— Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, укіньце ў куратнік: няхай яго куры задзяўбуць!

Схапілі слугі пеўніка, укінулі ў куратнік, а самі пайшлі.

Тут пеўнік і кажа:

— Каршун, каршун, вылазь з валляка, падушы курэй!

Выскачыў каршун з валляка, перадушыў усіх курэй ды паляцеў у лес.

Пеўнік зноў прыляцеў на падаконнік:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку! Ён у дзеда з бабай начаваў ды жаронцы ўкраў...

— Ах, — кажа пан, — дык яго куры не задзяўблі! Добра ж! Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, занясіце ў гусятнік: няхай яго гусі зашчыпаюць!

Схапілі слугі пеўніка і ўкінулі ў гусятнік.

Пеўнік ачухаўся ды кажа:

— Лісічка, лісічка, вылазь з валляка, падушы гусей!

Лісіца так і зрабіла, а сама ў лес пабегла.

Паляцеў пеўнік на падаконнік ды зноў сваё спявае:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку!..

— Ах, — кажа пан, — дык яго і гусі не зашчыпалі? Добра ж! Слугі, слугі, занясіце яго ў свінарнік: няхай яго свінні загрызуць!

Занеслі слугі пеўніка ў свінарнік. А там пеўнік кажа:

— Барсук, барсук, вылазь з валляка, пагрызі свіней.

(Працяг на стар. 10)

Мікола Бусько

### ЖНІВЕНЬ

Хваляў жытніх плёскат.
Водар і сухмень.
Мы з сястрой за вёску
Бегаем штодзень.

У руплівы жнівень
Нам — не да забаў...
Там працуе „Ніва“ —
Збожжавы камбайн!

Рух свой дзелавіты
Распачаў з расой.
Едзе сярод жытніх
Спелых каласоў.

Ён гудзе чын-чынам —
Быццам авадзень...
Спрытную машыну
Тата наш вядзе!

Гэта і не дзіва —
Вопыт у яго:
За штурвал садзіцца
Ён аж дваццаць год.

Аж да самай ночы
Жне, малоціць ён.
У яго памочнік —
Дзядзька наш Лявон.

Міхась Пазнякоў

### ПОБАЧ З ТАТАМ

Еду з татам на камбайне,
Збажыну ўбіраю.
У прастор бяскрайні
Горда спазіраю.

Бункер поўніцца паволі,
Жытам залаціцца.
Ні зярнятку не дазволім
На жніве згубіцца.

Збожжа ў кузаў высыпаю
Па камандзе таты.
Дарагому ураджаю
Кожны будзе рады.



*Удзельніца конкурсу „Беларуская песня '89“ для школьнікаў Гражынка Галавачык з Кленікаў.*
*Фота Яніны Чэрнякевіч.*

## ЗРАБІ САМА

На малюнку бачыш узор вышыўкі крыжыкам.

Часу цяпер у цябе нямала. Паспрабуй сама вышыць сурвэтку. Гэта на пачатак. А калі ўдасца, можна і нешта большае. Гэты ўзор можна выкарыстаць на прыгожую закладку для кніжкі, на сурвэтку ці нават на ўпрыгожанне блузачкі. Спрабуй. Можаш падумаць, як з гэтага ўзора зрабіць некалькі колераў.





(Працяг са стар. 9)

### ЖАРОНЦЫ

Барсук так і зрабіў, а сам пабег у лес.

Прыляцеў пеўнік на падаконнік:

— Ку-ка-рэ-ку!..

— Ах, — кажа пан, пачуўшы пеўніка голас, — дык яго і свінні не загрызлі? Слугі, слугі, укіньце яго ў стайню: няхай яго коні затопчуць!

У стайні пеўнік кажа:

— Воўк, воўк, вылазь з валляка, парэж коней!

Воўк выскачыў, парэзаў усіх коней і ходу ў лес.

Прыляцеў пеўнік на падаконнік.

— Ку-ка-рэ-ку!..

Пан аж за галаву хапіўся: што ж рабіць? Потым кажа:

— Слугі, слугі, схапіце гэтага крыкуна, занясіце кухару, няхай яго засмажыць.

Слугі так і зрабілі.

Кухар засмажыў пеўніка і прынёс на талерцы пану. Пан схапіў яго і праглынуў са злосці ўсяго адразу. А пеўнік ажыў у панскім жываце, вытыркнуў дзюбу праз правае вуха ды заспяваў:

— Ку-ка-рэ-ку! Каб пан не дажыў веку!..

Пан закрычаў:

— Слугі, слугі, хапайце сякеры, сячыце гэтага нягодніка!

Схапілі слугі сякеры, як секанулі, дык і адсеклі пану правае вуха... А пеўнік пералез у левае вуха ды зноў заспяваў.

— Слугі, слугі, — крычыць пан, — сячыце яго!

Секанулі слугі, ды не па пеўніку, і адсеклі пану левае вуха. Застаўся пан без вушэй.

Тады пеўнік высунуўся ў рот.

— Слугі, слугі, — крычыць пан, разявіўшы рот, — сячыце, сячыце яго!

Секанулі слугі, ды не па пеўніку, а па языку, — адсеклі пану язык.

А пеўнік выскачыў, паляцеў па падаконнік, сеў і спявае.

Бачыць пан — няма рады: усю яго жывёлу пеўнік перадушыў, ды і самога скалечыў. Вынес ён жаронцы з пакояў і аддаў іх пеўніку.

Пеўнік схапіў адзін камень пад адно крыло, другі — пад другое і паляцеў дахаты.

Зарадаваліся дзед з бабай жаронцам, пачалі ў іх муку малоць.

З мукі хлеб пякуць, самі ядуць і пеўніку даюць.

## Вершы Віктара Шведа

### КАНІКУЛЫ

Канікулы, канікулы,
Вясёлая пара.
Прырода нас паклікала
Са школьнага двара.

Паклікала цудоўная
На палявы прастор,
У лесу глыб чароўную,
Да рэчак і азёр.

Каб мы тут ласаваліся
Прыроды ўсім дабром,
Каб стомы пазбываліся
Мы з кожным новым днём.

Каб зноўку верасьнёваю,
Шчасліваю парой,
Прыйшлі мы з сілай новаю
У клас любімы свой.

### АД ПЧОЛ ЛЕДЗЬ-ЛЕДЗЬ УЦЁК МЯДЗВЕДЗЬ

Мядзведзь бег праз лясок,
Пахнуў яму мядок.
Знайшоў ён дрэва ствол
Я вялікім роем пчол.
Палез ён да дупла,
Спацеўшы ад цяпла.
Прасунуў толькі нос —
Той поўнасцю аброс
Сотняй маленькіх пчол,
Распух яму наўкол.
І хворы ўжо мядзведзь
З дрэва сышоў ледзь-ледзь,
Пабег, як толькі мог,
Ізноў у свой бярлог.
Пабег ён праз лясок,
Не пахне больш мядок.

### ЧОРНЫ КОТ

Дрэмле, дрэмле чорны кот,
Ды яму не спіцца.
Думае, чаму народ
Так яго баіцца.

Гэта ж, людзі, проста смех,
На мяне напасці,
Кот дарогу перабег —
Дык будзе няшчасце.

Я зусім звычайны кот,
Адно толькі: чорны.
І кашэчых шмат турбот,
І людзям пакорны.

Хай жа чарната мая
Не значыць нічога.
Дык не лайце, калі я
Перабег дарогу.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— У мяне найразумнейшы сабака з усяе ваколіцы, — хваліцца Міхаська.

— Бачу, — адказвае на тое Сцяпанка, — як толькі стрэліш, ён адразу хаваецца.

* * *

Дзве мухі беглі па лысіне спячага чалавека.

— Ведаеш, раней тут была сцежка.

* * *

Мірка чытае ў заапарку: „Карміць звяроў забараняецца".

— А як яны жывуць? — дзівіцца яна.

* * *

У заапарку хлопцы стаяць каля жырафы.

— Ведаеш, — кажа адзін з іх, — я не хацеў бы быць жырафай.

— Чаму?

— Ты толькі паглядзі, якая ў яе доўгая шыя. Яе ж трэба было б мыць!

* * *

Настаўніца ў класе задала напісаць апавяданне на тэму „Наш сабака". Кася напісала: „У нас няма сабакі".

* * *

Марылька з Уладзікам прыехалі да бабулі і пайшлі пагуляць у лес. Раптам Уладзік убачыў вужа:

— Марылька, глядзі, тут толькі хвост круціцца, а сабакі няма.

* * *

— Прыбягае хлопчык у краму і просіць:

— Давайце мне паўкілаграма каўбасы, толькі каб сухая не была.

— Чаму? — дзівіцца прадавец.

— Бо мой тата сказаў, што, калі не будзе сухая, дык я магу яе сам з'есці.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 58. Ліля Рымдзёнак. 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 39. Оля Камлёва. 7 клас.

* * *

БССР, 220014, г. Мінск-14, вул. Вавілава, 23, кв. 1. Марыя Анісімава. 8 клас.

* * *

БССР, 220039, г. Мінск-39, вул. Варанянскага, 11, к. 5, кв. 209. Света Івахненка. 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, Дамашэўскі пер., 32, кв. 1. Таня Курачкіна. 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, Дамашэўскі пер. 32, кв. 5. Оля Усс. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 56. Зоя Бушмакіна. 7 клас.

## ЗАГАДКІ

* * *

Пад саснэй шатрыстай
У загадкавым бары
Церам залацісты
Збудавалі жыхары.

* * *

Грукацела,
Бліскатала.
Каляровым ручніком
Неба завязала.

* * *

Я на сонейка падобны,
Я для ўсіх
Ласунак добры

Не тады, калі свячуся,
А як згасну і сагнуся.

* * *

Летам я — рагатая,
Восенню — хвастатая.
Хоць і горкая зусім,
Ды патрэбная — усім.

* * *

То празрысты і вясёлы,
То працяглы і густы.
Луг яго чакае, поле,
А яшчэ — чакаеш ты.
Пройдзе ён, і каля хаты
Ручаінкі зазвіняць.
Выйдзеш, ім бясконца рады,
Ты караблікі пускаць.

**Міхась Пазнякоў**

Адгадкі: мурашнік, навальніца з вясёлкай, сланечнік, цыбуля, дождж.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Пакладзі перад сабою восем запалак, так, як бачыш на рысунку. Перакладзі іх так, каб з іх атрымалася чатыры крыжыкі, кожны з двух запалак. Але памятай, што толькі праз дзве запалкі можна пераскочыць (крыжык — гэта таксама дзве запалкі).


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 3) зялёная галава на загоне, 6) вучоба або галіна ведаў, 7) нясе кроў ад сэрца, 8) настаўнік у спорце, 9) па вераб'ях з яе не страляюць, 13) недаедак, 16) на ім Нарыльск, 17) халасты або ўзнагароджаны ордэнам, 18) змаганне крыкам, 19) частка гумна ад току да сцяны або бок.

**Уніз:** 1) грызун на футра, 2) музыка з гадзінніка, 3) жалезны прут, якім вугольле выграбаюць, 4) пратэстанцкі святар, 5) аматар падарожжа, 10) выконвае ролі, 11) на ўсе рукі, 12) гімнаст у цырку, 14) горная парода, якая выкарыстоўваецца ў будаўніцтве, 15) не ўсё, што блішчыць.

„ядань"

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 26.**

**Упоперак:** азон, аблічча, клёкат, сала, ростань, гітара, карта, разьбяр, ігра, журнал, барахло, край.

**Уніз:** бокс, асёл, натура, пчала, масць, Лаос, лахі, каваль, турнір, кружок, тура, румба, зебра, брэх, гной, альт.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Георгі Тарасэвіч з Салігорска і Валянціна Славіна з Чашнікаў.



## СУПАКОЙ

— Нядаўна стаццю ў газеце была,
Магчыма чыталі яе, мілы?
Пра хлопца, які меў тры жонкі.
Ды вось
На днях таго хлопца судзілі.

— Ды што нам так многа аб тым
гаварыць?
Ды ты не хвалюйся, судзілі за тры,
А ты ў мяне... толькі другая.

**Васіль Гедзька**

Стаццю я чытаў, дарагая.





# АФАРЫЗМЫ

Аргумент: „Зямля бацькоў, дзедаў, прадзедаў" трэба замяніць аргументам „зямля дзяцей, унукаў і праўнукаў".

*

Найбольшыя свінні дамагаюцца найчасцей ад людзей, каб былі анёламі.

*

Панядзі такія, як „вечнасць", „бяскрайнасць", пачынаю разумець толькі тады, калі афармляю нейкую справу ва ўстанове.

*

Глупствы можна гаварыць, абы не ўрачыстым тонам.

*

Адукацыя — гэта тое, што разумнаму паказвае, як мала ён умее, дурному дае ілюзію, што ўмее многа.

*

У мове некаторых людзей чуваць арфаграфічныя памылкі.

*

Жыві так, каб тваім знаёмым, калі памрэш, стала нудна.

*

Віншаванні: самая ветлівая форма зайздрасці.

*

Благаслаўлёны той, хто, не маючы чаго сказаць, не адзявае гэтага факта ў словы.

**Юльян Тувім**

## АДМЕТНЫ ЛЕКАР
(байка)

Памыліўся — не журыся:
Век жыві і век вучыся.
Так заўсёды раіў дзед,
Лепшы сябар, мой сусед.
Раз сышліся ля ракі
Старыя халасцякі,
Наракалі на свой лёс,
Што з гадамі час прынёс:
І не скінеш, не страсеш,
Лёс псаваў уласны плеш.
І Захару, і Майсею,
І Макару, і Аўсею —
Было з імі не з аднымі:
Быць хацелі маладымі,
А так можна было даць,
З-за пляша пад сорак пяць.
А тут вось якая справа:
На слупе вісіць аб'ява,
Поплеч тут жыве аптэкар,
Ён — шаптун, адметны лекар,
Кажуць, толькі чымсь памажа,
Словы тры там нейкіх скажа —
Як рукою зніме плеш:
Кучаркамі абрасцеш,
Станеш, нібы, Апалон,
Так лячыў на словах ён.
І да лекара гурмою;
З той хваробаю адною,
Кожны дзень ідуць, ідуць
І ў кішэні ўсе нясуць.
Ён бярэ, не адвяргае,
Бо цана — не дарагая,
Кожнаму, зрабіўшы ласку,
Далячыў плышы да бляску,
А як добра ўзбагаціўся,
Нечакана недзе змыўся.

Кожны памятай і знай:
Людзей слухай, а свой розум
май.

**Аляксандра Елісеенка**

## САБЕ ПАДОБНЫ

Дантэ Аліг'еры, якога праследавалі на яго бацькаўшчыне, у Фларэнцыі, быў змушаны пераехаць у Верону. Праўда, князь Альбуіно д'Эскале аўтару „Боскай камедыі" адводзіў значна менш увагі, чым свайму блазну. Хтосьці, заўважыўшы гэтую несправядлівасць, выказаў свае спачуванні вялікаму паэту, але Дантэ абмежаваўся толькі да такой заўвагі:

— Нічога ў гэтым дзіўнага няма. Проста кожны любіць сабе падобнага..

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ ТЫ, ЛОЗАНЬКА-ПАЛОЗАНЬКА
(народная)

Ой ты, лозанька-палозанька,
Эх, зарасла мая дарожанька.*

Зарасла мая дарожанька,
Эх, розным
зеллейкам-карэннейкам.

З-пад карэння дзеўка рэпіцу
рвала,
Эх, шэрым гусям на дарожку
кідала.

— Гыля, гыля, шэры гусі,
дадому,
Эх, пара ж гусям да й
наплавацісь.

Пара ж гусям да й наплавацісь,
Эх, пара ж дзеўцы да й
наплакацісь.

Наплакалась-нарыдалася,
Эх, даўно з мілым не відалася.

Даўно з мілым не відалася,
Эх, цераз рэчаньку прашчалася.

Ой, за рэчкай парнёк маладой,
Эх, калі ласка, не заігрывай
са мной.

Калі ласка, не заігрывай
са мной,
Эх, маці стара дагадаецца.

Маці стара дагадаецца,
Эх, чаго лічка разгараецца.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.




*

— Уяві сабе, дружа, што мая адна знаёмая ў адзін цудоўны дзень пазнаёмілася з мужчынам, у той жа вечар выйшла за яго замуж, а раніцай развялася. Што ты на гэта скажаш?

— Раніца вечара мудранёй.

*

Два сябры едуць у аўтамашыне з хуткасцю 160 кіламетраў на гадзіну.

— Ну і хуткасць! А што з намі будзе, калі кола адляціць?

— Не хвалюйся, у мяне ёсць запаснае.

*

Паліцэйскі перапыніў двух п'яных шатландцаў і пытаецца іх:

— А дзе трэці?

— Які трэці?

— А той, які за вас плаціў.

*

— Спадар суддзя, гэта несправядліва. Мінулы раз, калі я назваў свайго суседа свінней, вы пакаралі мяне на 200 франкаў, а цяпер — на 500.

— Шкадую, але за гэты час свініна надта падаражэла.

*

У лесе над рэчкай турыст разлажыў вогнішча і стаў варыць гуляш на вячэру. Але неяк нязграбна павярнуўся, зачапіў за кацялок і выліў гуляш. Тады ён сказаў:

— Ну і цесна тут, ніяк не павярнуцца.




**Непрадуманая ініцыятыва — гэта не што іншае, як не ўсвядомленая да канца адказнасць.**